# Тыднёвік Магілёўскі




№ 35 (99) 8-14 верасьня 2000 г. Кошт 50 руб.

## Гэта ў іх называецца "атмасфэрай даверу"

ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ



ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ПЕЧАТИ

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11
Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

220048, Минск, проспект Машерова, 11
Тел. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

21.08.2000 № 02-01/2227

на №

Редакции Тыднёвік Магілёўскі

О регистрации редакции

Напоминаем, что в соответствии с Декретом Президента Республики Беларусь от 16.03.99 г. № 11 «Об упорядочении государственной регистрации и ликвидации (прекращении деятельности) субъектов хозяйствования» необходимо до 1 января 2001 года зарегистрировать в местном исполнительном комитете редакцию в качестве коммерческого или некоммерческого юридического лица в любой организационно-правовой форме. Если в качестве редакции выступает учредитель - гражданин, то юридическое лицо не создается. Учредитель в таком случае должен быть индивидуальным предпринимателем с правом выпуска периодического издания.

Председатель М.В. Подгайный

Гурецкий 223-61-86

*Сёньня ў Віцебску мусіў быў пачацца першы Фэст недзяржаўнай беларускай прэсы, прысьвечаны 5-годзьдзю Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) і міжнароднаму Дню салідарнасьці журналістаў.*

*Рыхтаваўся да гэтага сьвята і "Тыднёвік", які меў намер прэзэнтавацца сярод больш як 50 незалежных беларускіх выданьняў у якасьці адзінага ў нашай вобласьці вольнага нацыянальнага выданьня. Аднак у апошні момант сталася вядомым, што віцебская ўлада прыняла адпаведныя захады дзеля таго, каб сарваць Фэст. Папросту АТ "КІМ" было загадана адмовіць БАЖу ў прадастаўленьні для імпрэзы Палаца культуры, аб чым папярэдне была дасягнутая дамоўленасьць і вырашаныя ўсе фінансовыя пытаньні арэнды.*

*Праўленьне і Рада БАЖ прынялі адпаведную заяву ў сувязі з прыкрымі мэтадамі змаганьня ўлады супраць незалежнай журналістыкі. У ёй гаворыцца пра тое, што абяцаньні ўлады напярэдадні выбараў аб тым, што яна, улада, будзе імкнуцца да ўсталяваньня ў грамадстве сацыяльна-палітычнага міру і стварэньня атмасфэры ўзаемадаверу, нічога ня вартыя. БАЖ абвяшчае замежных калегаў (найперш заходняй Эўропы, а таксама мяркуемых удзельнікаў Фэсту з Расеі і Літвы), што верыць Лукашэнку нельга. У чарговы раз прадэманстраваныя ўладамі зласьлівыя адносіны да вольнага слова і дэмакратыі ёсьць сьведчаньнем цынічнай непавагі як да міжнародных правілаў цывілізаваных паводзінаў, так і да ўласнай Канстытуцыі.*

*Гэтымі ж днямі недзяржаўныя газэты атрымалі афіцыйны ліст за подпісам старшыні Дзяржкамдруку М.Падгайнага, якім газэты папярэджваюцца аб перарэгістрацыі да канца бягучага году. Гэтая "перарэгістрацыя", на думку прафэсара М.Пастухова, абсалютна незаконная. Яна мае на мэце перавесьці газэты ў адзін шэраг з камэрцыйнымі ці напаўкамэрцыйнымі структурамі, што дазволіць любому мясцоваму чыноўніку дыктаваць рэдакцыі любыя ўмовы праз пытаньні разьмяшчэньня, маёмасьці, падатковых капрызаў і г.д. Захочуць – і зачыняць выданьне – як гэта зроблена, напрыклад, у абласным цэнтры з камэрцыйнымі шапікамі ўздоўж менскага рынку...*

*БАЖ абавязкова правядзе Фэст пазьней і ў іншым горадзе, а таксама прыме захады, каб прыцягнуць да імпрэзы найбольшую ўвагу калегаў з усяго сьвету і дэмакратычных урадаў.*

**Рэдакцыя «ТМ»**

## Амэрыканскі Беларускі зьезд

У мінулую нядзелю, 3-га верасьня, у горадзе Кліўленьдзе (ЗША) адбыўся 24-ты зьезд беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Арганізатарам зьезду выступіла Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА).

Кіраўнік галоўнай управы БАЗА спадар Антон Шукелойць заўважыў, што гэтым разам беларускі зьезд набыў надзвычай высокі ўзровень. Асабіста ўдзельнікаў зьезду вітаў Боб Тафт – губэрнатар штату Агаё, і насёньня кіраўнік штабу рэспубліканскай партыі ў гэтым штаце. (Ён, дарэчы, паходзіць зь вельмі ўплывовай амэрыканскай палітычнай дынастыі. Ягоны прадзед быў 27-ым прэзыдэнтам Злучаных Штатаў).

Губэрнатар перадаў беларусам ліст ад кандыдата ў прэзыдэнты ЗША ад рэспубліканцаў Джорджа Буша (малодшага). У лісьце былі прывітальныя словы да зьезду й пажаданьні посьпехаў. Боб Тафт зь відавочнай радасьцяй і павагай прыняў падарункі ад беларусаў і заўважыў, што мае вялікі гонар, бо ў штаце Агаё жывуць і працуюць прадстаўнікі беларускай дыяспары, якія да таго ж не парываюць сувязяў з сваёй Радзімай.

Падчас афіцыйнае часткі зьезду выступіла старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла. "У сёньняшніх умовах мы мусім зберагчы хоць бы тое, што яшчэ маем", – сказала яна й заклікала прысутных разьвіваць усё нацыянальнае беларускае ў эміграцыі.

Удзельнікаў зьезду павітаў старшыня Вярхоўнага Савету 13 скліканьня Сямён Шарэцкі. Старшыня БНФ Зянон Пазьняк распавёў пра палітычную сытуацыю ў Беларусі, пераканаўча скрытыкаваўшы пры гэтым тую частку апазыцыі, якая ўдзельнічае ў восеньскіх выбарах.

24-ты зьезд беларусаў шырока асьвятляўся амэрыканскай мясцовай прэсай, а таксама буйной тэлекампаніяй CNN.

***Галіна ПРЫГАРА, Нью-Ёрк***

Дз.АБАДОЎСКІ: ДРУГОЕ СЛУХАНЬНЕ

## Што паказваюць сьведкі

На гэтым тыдні ўдзельнікі працэсу пад старшынствам судзьдзі Г.Кужалевай мелі справу са сьведкамі. Прыкладна 20 чалавек давалі паказаньні і адказвалі на пытаньні як пракурорскага, так і абарончага боку. Чым далей прасоўваўся суд у гэтым кірунку, тым усё больш відавочным станавілася тое, што многія доказы сьледзтва былі здабытыя з парушэньнямі закону й цяпер ня могуць быць прынятыя да абвінаваўчай увагі. Зразумела, што вырашаць гэта будзе суд, але назіральнікі і абаронцы Дз.Абадоўскага і А.Новікава спадзяюцца менавіта на такое ягонае рашэньне.

Некалькі эпізодаў суда ня могуць не зрабіць уражаньня, што сьледзтва выконвала загадзя пастаўленую задачу, а таму ня надта абцяжарвала сябе "фармальнасьцямі". Як зазначыў грамадзкі абаронца падсудных Валадар Цурпанаў, цяжка было пазьбегнуць уражаньня, што ў судзе на некаторых пракурорскіх і міліцэйскіх супрацоўнікаў, што прымалі ўдзел у сьледзтве й іншых дзеяньнях па справе, раптам абрынулася страта памяці. "Гонар мундзіру" выратаваў толькі адзін зь іх, які сумленна прызнаўся ў тым, што ў пратаколе, там, дзе выкарыстанае ягонае прозьвішча, пазначана няпраўда. Недакладныя і блытаныя паказаньні давалі прадстаўнікі крымінальнай экспэртызы, што ёсьць сьведчаньнем небясьпечных зь іхняга боку парушэньняў закону. Нарэшце, А.Новікаў, які праходзіць як саўдзельнік у сумесным з Дз.Абадоўскім крадзяжы, прадставіў алібі на той дзень і час, калі па матэрыялах абвінавачваньня ён рабіў гэтае злачынства. Не зусім пераканаўчымі выглядалі таксама паказаньні пацярпеўшай, якая ў апазнаньні гвалтаўніка і расповядзе пра некаторыя іншыя дэталі справы была настолькі недакладнай, што безь непахісных доказаў прымаць сказанае на веру – значыць рызыкаваць лёсам, магчыма, зусім невінаватага чалавека.

Суд зрабіў перапынак да наступнага аўторка.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па праблемах права***

ПАРАЛЕЛЬНА СУДУ

## Канвой як удзельнік працэсу

Інфармацыя аб неадэкватных і надта "актыўных" паводзінах міліцэйскага канвоя на судовым працэсе Дз.Абадоўскага і А.Новікава, якая ўтрымлівалася ў першым рэпартажы з суда нашага АГЛЯДАЛЬНІКА ("ТМ" №34), атрымала працяг.

Абаронца падсудных Сяргей Абадоўскі накіраваў заяву пракурору вобласьці сп. Дудкіну. У ёй утрымліваецца падрабязны, па хвілінах, пералік усіх парушэньняў, якія зрабіў канвой падчас суправаджэньня А.Новікава і Дз.Абадоўскага зь сьледчага ізалятара ў суд і па дарозе з суда ў сьледчы ізалятар. Неадэкватныя маршрутныя паводзіны канвою, які, дарэчы, адмовіўся прадставіцца абаронцам, вядомыя С.Абадоўскаму са словаў падсудных. Астатняе, што тычыцца іхных паводзінаў у судзе, абаронцы бачылі на свае вочы і чулі на свае вушы. Да іхных сьведчаньняў можа далучыцца і судзьдзя Г.Кужалева, якой двойчы давялося прымаць свае рашэньні, датычныя канвою. Першы раз яна дазволіла абаронцам у часе кароткага перапынку ў працэсе пракансультаваць А.Новікава аб ягоных правах і адносінах з грамадзкімі абаронцамі, пасьля таго як апошні заявіў на судзе аб жаданьні апынуцца пад абарончай апекай тых самых людзей, што выступаюць на баку Дзьмітрыя Абадоўскага. Перашкодай таму сталіся канвойныя, якія пры гэтым спасылаліся на загад МВД СССР ад 1977г. Далей канвойныя не дазволілі абаронцам правесьці канфідэнцыйную гаворку з падсуднымі, не забясьпечыўшы ўмовы такой гаворкі й застаўшыся прысутнымі на ёй.

У заяве да пракурора вобласьці С.Абадоўскі просіць расьсьледваць незаконныя дзеяньні канвойных, накіраваць адпаведнае прадпісаньне камандзіру іхняга падразьдзяленьня, а таксама дамагчыся таго, каб дзеяньні міліцыі не абумоўліваліся састарэлымі загадамі неіснуючай краіны.

***Уласная інфармацыя***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Руслан Ігнацішчаў, які зь лёгкасьцю падтрымаў лістападаўскі пераварот 96-га (будучы дэпутатам законнага Вярхоўнага Савету), апошнімі гадамі распаўсюджвае па Магілёве кніжкі накшталт "Родной ли белорусам русский язык", дзе упарта даказвае, што беларусаў як народа не існуе, а беларуская мова, беларуская культура – нацыяналістычныя міты. Сёлета прафэсар паспрабаваў вылучыцца у кандыдаты на абраньне ў Палату ад калектываў гарадзкой больніцы і МТУ. Аднак нечакана для сабе атрымаў поўны адлуп.

Улады знайшлі чарговых вінаватых у тым, што ў вобласьці цяпер невялікія ураджаі. Гэта – бабулькі, што гандлююць варанай кукурузай. Міхаіл Дражын выдаў спэцыяльнае распараджэньне, паводле якога забараняецца продаж з рук той самай кукурузы. Міліцыі загадана бабулек затрымліваць, штрафаваць. Маўляў, яны крадуць з калгасных палёў, наносяць гаспадаркам аграмадную шкоду. Замест таго, каб наладзіць продаж адпаведнага прадукту, дзяржава ідзе шляхам забаронаў. А бабулькі працягваюць гандляваць, бо прапанову народжвае попыт, а не распараджэньне чыноўніка.

У абласным драматычным тэатры хутка мусіць зьмяніцца кіраўнік. Віктар Куржалаў сыходзіць. Па нашых зьвестках, на ягонае меца прыходзіць нейкі "бэпэсэзмавец". Кажуць, што ён на сустрэчы з акторамі прастадушна паведаміў, што быў у тэатры апошні раз даволі даўно, на дзённым спектаклі для дзяцей.

Аблвыканкам дэманструе, як ён глыбока разумее клопат Лукашэнкі аб спорце, у прыватнасьці, аб хакеі. Паколькі Палац пабудавалі, цяпер у горадзе мусяць зьявіцца хакейныя каманды. Таму выканкам вырашыў стварыць адпаведную спартовую школу – пры тым, што грошай зараз не хапае абсалютна на ўсё: ад утрыманьня футбольнага "Дняпра" да ўсіх ужо наяўных спартовых установаў. Няўжо ў Доме Саветаў сапраўды мяркуюць, што пры нашым жабрацтве мы здолеем стварыць на лядовай пляцоўцы нешта класнае? Відаць, спадзяюцца. Бо хакейныя клясы будуць адчыненыя, паводле памянёнага рашэньня, нават у райцэнтрах. Во будзе весела!

Магілёўскі аўтавакзал стаў запускаць камэрцыйныя рэйсы па самых папулярных прыгарадных маршрутах. Працяглы час транспартнікі баяліся гэта рабіць. Вядома, што перавозяць пасажыраў яны сабе ў страту, – як і ўва ўсёй краіне. Дзяржава, у імя фіктыўнай сацыяльнай справядлівасьці, трымае на пэўныя тавары і паслугі моцна заніжаныя кошты, а кампэнсоўваць страты не пасьпявае. Вось і аўтобусы фактычна перайшлі на больш адпаведныя расцэнкі. Але для людзей гэта азначае аграмадныя выдаткі зь сямейных бюджэтаў – без усялякай надзеі на пэрспэктыву іхняга папаўненьня.

Крычаўскі завод гумавых вырабаў – тыповае беларускае прадпрыемства. Паводле дзяржаўнай палітыкі тут увесь час павялічваюць вытворчасьць. Сёлета там на 13% вышэй вытворчасьць працы. Каб на гэтым спыніцца, дык ураженьне, што перад намі флагман прамысловасьці. Але... Рэалізаваная спажыўцам прадукцыя не аплочаная на 182 мільёны рублёў. На складах ляжаць гумавыя вырабы аж на 200 мільёнаў рублёў. Завод не аплочвае цалкам электрычнасьць, працаўнікоў накіроўваюць у адпачынак на 2/3 заробку (і гэтыя грошы трэба неяк забясьпечваць). Хутка і на падобныя адпачынкі грошай можа не хапіць.

Старшыня аблвыканкаму М.Дражын мае цяпер праграму асабістага ўдзелу ў вырашэньні праблемаў на прадпрыемствах, дзе становішча найбольш складанае. Гэта значыць, што чыноўнік будзе цяпер езьдзіць на тыя прадпрыемствы і апякавацца імі – каб яны запрацавалі лепей. Вось толькі на якое "лепей" ён будзе арыентавацца? Чым больш нашыя прадпрыемствы вырабляюць, тым горш іх працаўнікам. Можа, сп. Дражын прапануе нейкі трэці шлях?

Каму пра што, а нам у чарговы раз пра адсутнасьць інвэстыцыяў хочацца сказаць. Вось Міхаіл Красноў заявіў, што прадпрыемствы не абнаўляюць вытворчасьць. Маўляў, на некаторых 30 гадоў адна і тая ж прадукцыя выпускаецца, а дзенідзе яшчэ станкі даваенныя стаяць. Заўжды зьдзіўляе гэткая чыноўніцкая "наіўнасьць": праводзіць эканамічную палітыку па-лукашэнкаўску, а потым скардзіцца на неабноўленае абсталяваньне і састарэлую прадукцыю!

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

ДА ДНЯ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

# На скрыжаваньні эўрапейскіх дарогаў

***Нашую краіну Бог разьмесьціў такім чынам, што яна палягае ў самым цэнтры перакрыжаваньняў паміж усходам і захадам, поўначчу і поўднем. Гэта ўсю вейную гісторыю правакавала суседзяў на агрэсыю і спробу яе анэксіі. Але баронячы сябе, Беларусь адначасова дапамагала й суседзям захоўваць іхныя тэрыторыі, суверэнітэт, культуру. Так было ад моманту ўтварэньня нашай дзяржавы да часоў апошняй сусьветнай вайны...***

Ад І-га тысячагодзьдзя нашай эры да XIII-га Эўропа пакутвала ад нашэсьцяў качэўных азыяцкіх народаў. Ужо ў 1060 г. ваяры Полацкага князя Ўсяслава бралі ўдзел у вайсковым паходзе кіеўскіх дружынаў супраць качэўнікаў. У наступным веку дружына гарадзенскага князя Яраслава ў складзе кіеўскага войска выступіла супраць палавецкага хана Канчака.

У XIII ст. Эўропу скалыналі напады мангола-татараў. На працягу больш чым дзьвюх стагодзьдзяў нашыя продкі баранілі ад іх сябе й цэнтральна-заходнія эўрапейскія дзяржавы. Беларускія вайсковыя аддзелы князёў Міндоўга, Альгерда, Андрэя Альгердавіча, Дзімітрыя Альгердавіча, Баброка Валынскага перамаглі ў шэрагу бітваў, у тым ліку адолелі Мамая на полі Куліковым – тым самым аказаўшы неацэнную братнюю дапамогу ўкраінцам і русінам. Беларускае войска пад камандаваньнем М.Глінскага пад Клецкам ушчэнт размалаціла ваяроў крымска-татарскага ханства, чым назаўсёды адбіла ў іх ахвоту нападаць на славянскія тэрыторыі.

У XIII-XVI ст.ст. беларускія палкі ваявалі за незалежнасьць земляў сваіх, а таксама – Польшчы й Прыбалтыкі з крыжакамі з ордэнаў Мечаносцаў, Тэўтонскага і Лівонскага. Пераможныя для нашых продкаў у складзе славянскіх войскаў бітвы на возеры Дурба, рацэ Акмяне, у паходах на Брандэбург і Франкфуртна-Одэры, на рацэ Стрэве і, нарэшце, пад Грунвальдам назаўсёды спынілі крыжакоў у іхных памкненьнях авалодаць Беларусьсю, Польшчай, заходнімі землямі Расеі і Ўкраіны.


Фота IREX

Пазьней беларускія войскі вызначыліся гераізмам і сьмеласьцю ў бітвах з швецкімі нападнікамі пад Кірхгольмам і пад Рыгаю. Разам з суседзямі баранілі беларусы Эўропу ад туркаў. Вялікай славай у XIX ст. у некалькіх значных бітвах пакрылі сябе Магілёўскія палкі, якія фармаваліся на беларускіх землях, падчас вызваленьня Баўгарыі ад турэцкага панаваньня, асабліва ў часе штурма Ізмаіла.

Ня ўсе суседзі былі памятлівымі і ўдзячнымі беларусам за іхны ўдзел у агульных вызваленчых войнах. Маскоўская Русь намагалася напрыканцы XIV - пачатку XV ст. падначаліць сабе ўсе славянскія землі для ўтварэньня імпэрыі "Трэці Рым". Гэтым плянам аднак ня выпала спраўдзіцца, бо беларуска-польска-літоўскія войскі здолелі абараніць свае землі, не дазволіўшы "ваяўнічым азыятам" распаўсюдзіць свой уплыў на краіны, што заўсёды цягнуліся на захад, да Эўропы. Войска К.Астрожскага пад Воршай перамагло амаль утрая пераўзыходзячае яго маскоўскае (менавіта гэтая бітва, дарэчы, што адбылася 8 верасьня 1514г., нарадзіла гістарычны Дзень Беларускай вайсковай славы). Свае перамогі пад Чашнікамі атрымалі ў часе гэтай вайны М.Радзівіл і Р.Сангушка. Скончылася тым, што беларуска-польскія войскі наогул занялі ў 1610 годзе Маскву...

Не абыйшла, зразумела, беларускія землі апошняя вайна, што пачалася 1 верасьня 1939 г. з гітлераўскага нападу на Польшчу. Але як толькі дайшлі фашысцкія палкі да Беларусі, дык адразу і зьведалі, што такое супраціў і мужнасьць. Асабліва Магілёў даў немцам першыя ўрокі ўпартасьці і гераізму. Практычна бяз зброі, без умацаваньняў, упершыню ў гэтай вайне скарыстаўшы народнае апалчэньне, палкі пад Магілёвам трымаліся 24 дні, зь іх 11 – у поўным акружэньні. Беларускі ўклад у перамогу над Гітлерам ніхто й ніколі не падвергне сумневу, ня зможа паменшыць.

*...Шмат ваявала Беларусь і беларусы. Ніколі гэтыя ратныя справы ня мелі агрэсыўных ці заваёўных намераў. Больш таго, заўсёды, ад пачатку ўзьнікненьня нацыянальнай самасьвядомасьці і дзяржаўных утварэньняў на нашай зямлі, беларусы ваявалі пад лёзунгам "За нашу і вашу волю!".*

*Нельга забывацца на тое. Нельга не ганарыцца тым.*

***А.КРАСНАСЛАБОДЦАЎ***

# Газэта такія просьбы выконвае

***Бялыніцкія сацыял-дэмакраты павіншавалі гараджанаў з сьвятам Беларускай вайсковай славы. Адмысловыя паштоўкі былі адпраўленыя ня толькі на выпадковыя адрасы, але й старшыні райвыканкаму, ягоным намесьнікам, а таксама кіраўніцтву "патрыятычнага" саюзу моладзі (БПСМ). Аднак жа такіх паштовак было выраблена ня шмат.***

***Таму бялыніцкія дэмакраты папрасілі "Тыднёвік" павіншаваць усіх жыхароў раёну з Сьвятам нацыянальнай вайсковай славы, што мы ахвотна і робім. Адначасна віншуем з выбітным Днём у гісторыі Бацькаўшчыны ўсіх чытачоў, усіх насельнікаў Падняпроў'я.***

***"Тыднёвік Магілёўскі"***

ЭКАНАМІЧНЫ АГЛЯД

# Хто ў нас адказвае за эканоміку

Цягам мінулага тыдня ўрад і вэртыкальныя ўлады прыкладалі нямала намаганьняў, каб выканаць дадзенае А.Лукашэнкам народу абяцаньне зьліквідаваць да 1 верасьня запазычанасьць у заробкавай плаце (уключна з заробкамі за ліпень).

Для дасягненьня пастаўленай мэты ўрад пайшоў на шэраг надзвычайных захадаў. Напрыклад, Савет міністраў даслаў адмысловы ліст за подпісам першага намесьніка прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова кіраўнікам усіх міністэрстваў і ведамстваў, а таксама Нацыянальнага й камэрцыйных банкаў з прапановаю адкласьці выдачу жнівеньскага заробку на 10 дзён. Мэта зразумелая: спроба з'эканоміць грошы для таго, каб і распараджэньне выканаць, і не дапусьціць эмісіі ўкупна з новым вітком інфляцыі.

Але, як вядома, гэта не дапамагло. На канец жніўня, паводле дадзеных Мінсельгасхарчу, запазычанасьць у заробкавай плаце ў сельскай гаспадарцы склала 9 млрд. руб., пры тым, што за жнівень яшчэ не разьлічыліся. Як бачым, ніякія адміністрацыйныя захады не даюць станоўчага плёну, бо не закранаюць прычынаў грашовага і, адпаведна, сацыяльнага напружаньня.

А прычыны дзьве: нізкая эфэктыўнасьць эканомікі пры дырэктыўнай сыстэме гаспадараньня, а таксама – непамерныя "нажніцы" у цэнах, якія для калгасаў і саўгасаў у разьліку на год складаюць адмоўнае сальда памерам блізу 200 млрд. рублёў. Пры такіх умовах забясьпечыць нармальнае вядзеньне гаспадаркі, а значыць і забясьпечыць рэгулярную выплату заробкаў фактычна немагчыма.

За чэрвень і ліпень заробкавая запазычанасьць захоўваецца ва ўсіх рэгіёнах краіны, а ў асобных гаспадарках – нават за красавік-травень. Бацькі школьнікаў калгасу "Сьветач" Чэрвеньскага раёну, напрыклад, у адчаі заявілі, што не пашлюць сваіх дзяцей у школу, бо няма за што іх абуць і апрануць, купіць школьны рыштунак. Калгас не аплаціў людзям заробкі ажно за красавік. ***(Хай сабе і даволі кволыя, аднак жа акрэсьленыя вясковыя "выпады" людзей супраць улады мелі месца і ў нашай вобласьці, пра якія мы паведамлялі раней – "ТМ").***

"Вэртыкаль" шукае выйсьця, між іншым, не на эканамічным полі, а толькі звыклым для сябе адміністрацыйным чынам. Першае, што было зроблена – утвораная адмысловая ўрадавая камісія для кантролю за выкананьнем лукашэнкаўскага распараджэньня. Яе ўзначаліў, відаць, для большага страху, старшыня Дзяржкантролю Анатоль Тозік. У яе склад увайшлі найбольш "важкія" міністры, старшыня КГБ Уладзімер Мацкевіч. Склад камісіі сьведчыць пра мэтады, якія ёсьць у распараджэньні гэтых людзей для ўзьдзеяньня на тых, хто паспрабуе ня выканаць загад. Але ж хто будзе аналізаваць ды ліквідаваць ***прычыны***, па якіх узьнікла і працягвае нарастаць запазычанасьць у выплаце заробкаў?..

***Уладзімер КУЛАЖАНКА,***
***прафэсар***

